# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 23 (641) ГОД XIII 9 ЧЭРВЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.

І вось за намі ўжо 10 гадоў існавання і дзейнасці **Беларускага літаратурна - мастацкага аб'яднання «Белавежа».** У гісторыі літаратуры дзесяцігадовы перыяд — гэта проста кропля вады ў бязмежным акіяне. Аднак ніводзін літаратуравед, калі захоча напісаць гісторыю літаратуры Народнай Польшчы, літаратуры, якая дала б поўны вобраз 60-цідзесятых гадоў нашага XX стагоддзя, **не зможа абыякава махнуць рукой на наш беларускі літаратурны рух.**

А дзесяць гадоў таму назад можна было толькі марыць аб гэтым. Зрэшты, усё тады зводзілася да мар. Марылі Янка Анісеровіч і Віктар Швед, калі на старонках «Нівы» пісалі аб патрэбе аб'яднання беларускага літаратурнага руху, марыў Георгі Валкавыцкі, калі супольна з іншымі сябрамі ствараў ар-




ганізацыйныя формы гэтага руху. Аказалася, што былі гэта высакародныя і пладатворчыя мары. Давялі яны да таго, **што 8 чэрвеня 1958 года адбыўся ў Беластоку першы арганізацыйны сход, на якім нарадзілася Беларускае літаратурнае аб'яднанне.**

Сярод амаль 40 удзельнікаў першага арганізацыйнага сходу ніводзін не мог тады сказаць: **«Я літаратар»,** хіба ніхто нават паціху так усур'ёз не падумаў. Сабраліся людзі, пераважна маладыя, розныя па прафесіі і па адукацыі. Аб'ядноўвала іх адно: любоў да роднага слова. Хацелі па-мастацку фармаваць яго рэчыва, у словах — на мове бацькоў — хацелі адлюстроўваць свае хваляванні і хваляванні свайго асяроддзя.

Было тады пасеяна зерне. З яго ў межах Польскай Народнай Рэспублікі вырасла беларускае літаратурнае дзерава, зацвіло шчырасцю намераў і дало плады. Розныя яны па якасці і колькасці, але — што найважнейшае — яны ёсць! Вось кароткі пералік: альманах «Рунь» (1958), «Дзядзька Лявонь» (1961), «Мой родны кут» (1963), «Белавежскія матывы» А. Барскага (1964), альманах «Белавежа» (1965), «Прамень думкі» Я. Бурша (1965), «Жыццёвыя сцежкі» В. Шведа (1967). Да гэтага трэба дадаць яшчэ нашы беларускія календары і рэпертуарны матэрыял. Разам восемдзесят пяць тысяч экземпляраў з беларускім друкаваным словам. І ўсе яны ўжо прададзены, знайшліся ў руках беларускага насельніцтва. А незадоўга: другі зборнік вершаў А. Барскага «Жнівень слоў», зборнік песняў на словы В. Шведа з музычнай апрацоўкай Э. Гойліка. Запланавана таксама выдаць том апавяданняў і аповесцей С. Яновіча, зборнік вершаў І. Чыквіна, другі альманах «Белавежа»...

Значыць гэтыя дзесяць гадоў характарызаваліся творчай працай. Хаця і зараз, наколькі мне вядома, ніхто сярод членаў нашага літаб'яднання ў рубрыцы «прафесія» не піша сабе: **«літаратар» — беларускі пісьменніцкі рух у Польшчы з'яўляецца наяўнай рэчаіснасцю.** Прынамсі пра некаторых удзельнікаў гэтага руху з поўнай адказнасцю можна сказаць, што яны — пісьменнікі.

Нездарма як анекдот апавядаюць са-

(Працяг на стар. 4)



Белавежа. У Палацовым парку. Фота: Г. Рагазінскі

НАСТАЎНІКАМ, ВУЧНЯМ, БАЦЬКАМ!

## СУСТРЭЧА Ў „НІВЕ"

У другой палове мая г.г. у нашай рэдакцыі адбылася сустрэча прадстаўнікоў **Куратарыі школьнай акругі, Акруговага метадычнага цэнтра, Аддзела асветы і рэдакцыі «Ніва».** Куратарыю прадстаўлялі: візітатары — **мгр Мікалай Грыгарчук і Ян Канапелька,** Акруговы метадычны цэнтр — **мгр Міхась Кураш,** Аддзелы асветы — **намеснік школьнага інспектара ў Бельску Язэп Альшэўскі,** настаўнікаў — **Мікола Краўчук** з Патокі. «Ніву» прадстаўляў **галоўны рэдактар Г. Валкавыцкі.**

Асноўнай тэмай сустрэчы былі справы звязаныя з далейшым вядзеннем дапамогі вучням і настаўнікам на старонках нашага тыднёвіка. Падкрэслівалася, што «Ніва» ў мінулым споўніла аграмадную ролю ў навучанні беларускай мовы, друкуючы фрагменты неапублікаваных (тады) новых падручнікаў, а таксама матэрыялы па гісторыі роднай зямлі.

Прысутныя запрапанавалі, а кіраўніцтва рэдакцыі прыняло да рэалізацыі, пяць тэматычных груп. Настаўнікаў павінны зацікавіць пастаянныя рубрыкі, якія «Ніва» ўводзіць ад пачатку будучага школьнага года. Можна тут будзе знайсці **куток абмену вопытам,** дзе настаўнікі будуць падаваць прапановы развязкі цяжэйшых лекцыйных адзінак па беларускай мове, а таксама цікавейшыя справаздачы і даклады з метадычных канферэнцый. Вучням «Ніва» будзе друкаваць **сучасныя беларускія творы, як дадатковую літаратуру,** аб якой толькі агульна гаворыцца ў праграме навучання. Апрача таго, настаўнік і вучань знойдуць у «Ніве» **матэрыялы - дапаможнікі адносна тэорыі літаратуры,** а таксама па меры магчымасці **матэрыялы з польска-беларускага літаратурнага паграніччa.** Асобнай дзялянкай будзе **цыкл гутарак на ідэйна - выхаваўчыя тэмы.**

Калі разыходзіцца аб тэхнічны бок, дык справа друку матэрыялаў будзе так уладжана, што можна іх будзе вырэзваць і рабіць сабе збор.

**Ад імя ўдзельнікаў сустрэчы звяртаемся да ўсіх настаўнікаў, вучняў і бацькоў, каб не забыліся і абавязкова зрабілі падпіску «Нівы» на трэцюю чвэрць 1968 г.** Водгукі і прапановы ахвотна бачым, і пасля іх разгляду можам увесці ў рэалізацыю, каб магчы лепш служыць дапамогай нашым школам. (ак)

## ШКОЛЬНЫ КОНКУРС

Куратарыя Беластоцкай школьнай акругі і Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства супольна арганізуе **конкурс прысвечаны 25 гадавіне Войска Польскага для вучняў пачатковых школ і ліцэяў на найлепш праведзеную апеку над магіламі польскіх і савецкіх воінаў паўшых за вызваленне нашых зямель у час другой сусветнай вайны.** Апрача апекі над магіламі **школы павінны выказацца арганізаваннем сустрэч з удзельнікамі вайны — салдатамі і былымі партызанамі.** Усе гэтыя мерапрыемствы павінны быць апісаны. Так сарганізаваныя і напісаныя пісьмовыя працы трэба перасылаць на адрас: Zarząd Główny BTSK Białystok, ul. Warszawska 11.

За найлепш выкананыя конкурсныя заданні і іх апісанне Куратарыя і ГП БГКТ прызнае каштоўныя ўзнагароды.

Правілы конкурсу школы атрымаюць асобна (будзе таксама за тыдзень у «Ніве»), а пісьмовыя працы трэба скласці да **15 кастрычніка г.г.**

Надзеемся, што да конкурсу прыступяць усе школы, таму што звязаны ён непасрэдна з пашырэннем ведаў аб жывых і мёртвых стваральніках Войска Польскага, якое поплеч з Савецкай Арміяй зараз стаіць на стражы міру ў свеце. Правядзенне конкурсу будзе рэалізацыяй адной з форм ідэйна-выхаваўчага працэсу, што з'яўляецца неабыякавай справай у школьнай праграме навучання і выхавання. (ак)




* * *

**Урастайце паэты ў словы
па пояс, па грудзі,
як дрэва ў глебу,
карэнні трымайце
ў крыніцах глыбінных.
слова ёсць хлебам,
слова ёсць бацькам
і сынам,
турмой і святыняй,
бывае гняздом,
дзе стуліць можна крылы
і зноў распасцерці
да лёту,
калі грудзі
шчасця не месцяць,
калі радасць у сэрцы, як готык,
і гэта павінна быць мэтай
імкненняў паэта —
узбіцца з гнязда
сваёй мовы
і вярнуцца са знойдзеным
словам.**

**Алесь Барскі**

Прадукцыйныя абавязацельствы працоўных сталіся адным з галоўных праяваў патрыятычнай паставы і заангажавання ў сацыялістычнае будаўніцтва краіны. Беларускае асяроддзе заўсёды праяўляла свой актыўны ўдзел у гэтых абавязацельствах, у працах грамадскім чынам, падкрэсліваючы гэтым самым сваю неразрыўную еднасць з лёсамі ўсяе краіны, заангажаванай у творчай працы над стварэннем лепшай будучыні. У працы грамадскім чынам асабліва аднак заангажаваным было заўсёды насельніцтва Гайнаўскага павета. Хопіць напомніць хаця б вядомыя ўжо мабыць нашым чытачам працы сялян Гайнаўшчыны, пры пабудове крамаў у сваіх вёсках. Але перад кра-

## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

мамі жыхары Гайнаўшчыны не менш ахвярна працавалі пры пабудове дарог у сваім, раней поўным бездарожжаў, павеце. У 1963 годзе Гайнаўка заклікала жыхараў іншых гарадоў да адзначэння XX-годдзя Народнай Польшчы працай грамадскім чынам над упрыгожаннем сваіх гарадоў. Дзякуючы ініцыятыве Гайнаўкі ўзнік грамадскі рух пад лозунгам: «Жыхары свайму гораду». У самой Гайнаўцы ў 1961—1965 гадах вартасць прац грамадскім чынам асягнула агульную суму 81 900 000 злотых.

Не менш рашуча сваю сувязь са справамі, якімі жыве ўся краіна, жыхары Гайнаўшчыны выявілі падчас святкавання 1000-годдзя Польскай Дзяржавы. Агульна беручы ў 1966 і 1967 гадах жыхары Гайнаўшчыны выканалі прац грамадскім чынам на агульную суму 11.505.000 зл., калі ж дадаць да гэтага сродкі, якія прызначала дзяржава на падтрымку гэтых прац, акажацца, што пры іх дапамозе на Гайнаўшчыне ў мінулыя два гады выканана заданні на агульную суму 21.228.000 зл.

Гэта аднак у пэўным сэнсе ўжо гісторыя. Сучаснасць — гэта абавязацельствы ў гонар V з'езда партыі. У апошнія месяцы грамадскасць Гайнаўкі прыняла прадукцыйныя абавязацельствы на суму 14 мільёнаў злотых. Адна толькі моладзь са школ Гайнаўшчыны і з маладзёжных арганізацый прыняла абавязацельствы выканання прац на суму 672 тысячы зл.

Як усё на свеце, так і працы грамадскім чынам ды прадукцыйныя абавязацельствы могуць стацца чыстай фармальнасцю, пазбаўлены ўсялякага глыбейшага зместу. Пагроза такая існуе асабліва там, дзе дзейнічае імкненне да зарэгістравання як найбольшай колькасці абавязацельстваў грамадства без увагі на рэальныя магчымасці іх рэалізацыі і магчымасці тэхнічнага іх забеспячэння. Так, напрыклад, сяляне Новаберазова абавязаліся пабудаваць на працягу 2 гадоў святліцу, распачаць будову спулдзельні здароўя, пабудаваць стадыён, пажарніц-

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ПАЛІТЫЧНАЯ ЛАВІНА Ў ФРАНЦЫІ

Тое, што ўжо сталася ў Францыі, будзе яшчэ на даўжэйшы час тэмай розных каментарыяў і доследаў. Мінулы тыдзень прынёс новыя элементы, але яны таксама не высняюць, што станецца з V Рэспублікай. Некаторыя назіральнікі сцвярджаюць, што апошнія выпадкі ў Францыі сведчаць аб канцы ўлады дэ Голя і аб канцы V Рэспублікі. Іншыя гавораць толькі, што калі нават дэ Голь і ўтрымаецца пры ўладзе, дык гэта не будзе тая самая V Рэспубліка.

У мінулым тыдні выявіліся новыя элементы сітуацыі ў Францыі: рабочыя адкінулі ўступкі ўрада адносна папраўы эканамічнай сітуацыі; прэзідэнт дэ Голь адклікаў рэферэндум; прэзідэнт развязаў парламент. Найбольш неспадзяванай справай была атака генерала дэ Голя на камуністаў і французскіх левых. Вельмі здзіўляючым ёсць факт атакі на камуністаў, якія ж заклікалі да спакою, легалізацыі і парадку ў апошніх выпадках.

Французскія левыя не здаюцца на ніякія ўступкі. Паводле іх меркаванняў, працэнт мандатаў у парламенце і так не згодны з сапраўднымі суадносінамі сіл у Францыі. Камуністы і левыя Мітэранда дайшлі да паразумлення, што ў першай туры выбараў будуць высоўваць асобна кандыдатаў, а ў другой высунуць і будуць галасаваць на кандыдатаў, якія атрымалі найбольш галасоў. Г. зн., што палітычныя партыі надалей выкарыстоўваюць парламентную дарогу барацьбы.

А тым часам генерал дэ Голь на тэрыторыі ФРГ сустрэўся з галоўнакамандуючымі французскай арміі. Пасля кансультацыі вакол Парыжа пачалі канцэнтравацца войскі. Дэ Голь у прамове сказаў, што апрача тых сродкаў, якія зараз вядзе ўрад (перагавораў), могуць быць прыменены і іншыя сродкі: 1) тыя, якія дае яму канстытуцыя г. зн. неагранічонай улады самога дэ Голя, 2) ваенныя спосабы.

### ПЛЕНУМ КПЧ

У мінулым тыдні закончыўся Пленум ЦК КПЧ. Пленум прыняў, між іншым, пастанову аб скліканні ў верасні г. г. XIV Надзвычайнага з'езда партыі. Даклад на Пленуме меў I сакратар ЦК А. Дубчэк. Падкрэсліў ён, між іншым, што ў апошніх тыднях дайшло ў Чэхаславакіі да дзвюх некарысных з'яў: 1) зактывізаваліся антыкамуністычныя і антысацыялістычныя элементы, 2) паднялі таксама галаву элементы дагматычныя і сектанцкія (тыя, якія хацелі б вярнуцца да старога). А. Дубчэк сцвердзіў, што партыя гатова ачысціць свае рады з тых, хто быў адказны за парушэнне правіл у мінулым.

Пленум прыняў таксама пастанову аб выключэнні м. інш. былога I сакратара ЦК і б. прэзідэнта Чэхаславакіі А. Новатнага з членаў ЦК і прыпынена яго членства ў партыі за м. інш. публічныя палітычныя прыгаворы ў мінулым.

А. К.

## БССР

### ВАРШАЎСКАГА

Газеты паведамляюць пра візіт дэлегацыі Мінскай вобласці ў Варшаве, якая прыбыла ў Польшчу па запрашэнню Варшаўскага камітэта партыі і ВРН. Беларускія госці наведалі важнейшыя прамысловыя прадпрыемствы і аб'екты сельскай гаспадаркі ў Варшаўскім ваяводстве, а таксама пабывалі ў Кракаве, Асвенціме і на Шлёнску.

### СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

У Мінску адбылася рэспубліканская навукова-тэхнічная канферэнцыя спецыялістаў радыёэлектронікі і сувязі, прысвечаная 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Абмеркавана даклады аб стане і перспектывах развіцця радыёвяшчання, радыёсувязі, тэлебачання і правадных сродкаў сувязі.

### ПОМНІК - МУЗЕЙ

У слыннай беларускай вёсцы **Лепіна** Горацкага раёна пачалося будаўніцтва помніка-музея польска-савецкай баявой садружнасці, які будзе закончаны яшчэ ў гэтым годзе, на 25-тую гадавіну Войска Польскага.

Будынак гэтага музея будзе мець купалападобную форму накшталт салдацкай каскі, цокальная частка ўзвядзіцца з паліраванага граніту, а сцены з жалезабетону, алюмінію і шкла.

### СЯБРОЎ

У Мінск прыбыла спецыяльным цягнікам вялікая група змагароў за мір з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Нямецкіх сяброў віталі прадстаўнікі Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру, працоўных беларускай сталіцы. Госці пабывалі м. ін. у Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны.

### КІСЯЛЁВА

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР назначыла Рыгора Кісялёва намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР.

Дагэтуль з'яўляўся ён міністрам асветы.

### ЧЫТАННІ

Беларускае Тэлеграфнае Агенцтва паведамляе: «Агіткалектыў пры пярвічнай партарганізацыі калгаса «Гудзевічы» сумесна з лектарскай групай Таварыства «Веды» арганізавалі юбілейныя чытанні **«Беларусь — рэспубліка мая»**. Чытанне лекцый і дакладаў да 50-годдзя Савецкай Беларусі арганізавана ва ўсіх вёсках калгаса».

### СЕРЫЮ

Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпускае серыю навукова-папулярных нарысаў пра выдатных дзеячаў беларускай культуры.

Новая кніжка з гэтай серыі — «Браніслаў Эпімах - Шыпіла». Напісаў яе малады даследчык Р. Семашкевіч.

Эпімах-Шыпіла 42 гады складаў «Беларускую хрэстаматыю», гэты надзвычай унікальны дакумент у гісторыі беларускай літаратуры, дзякуючы якому многія творы беларускай паэзіі дайшлі да нашага часу.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### СВЯТА СЯЛЯН

Як штогод у мінулую нядзелю ва ўсёй краіне адбыліся ўрачыстасці з нагоды Людовага свята — свята сялян. Напярэдадні святкаванняў у Варшаве адбыўся ўрачысты канцэрт, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад, а таксама госці з Балгарыі. Падчас урачыстасці з прамоваю выступіў старшыня Галоўнага Камітэта ЗСЛь — Чэслаў Выцэх.

Чэслаў Выцэх падкрэсліў, што Людовае свята ў гэтым годзе супадае з шэрагам вялікіх гадавін з гісторыі польскага народа і рэвалюцыйнай барацьбы рабочых і сялян. Аказваючы пашану мінуламу, — сцвердзіў прамоўца, — мы чэрпаем з яе навуку для таго, каб знайсці як найлепшую дарогу развіцця нашай краіны. Характарызуючы заданні, якія стаяць перад вёскаю, Чэслаў Выцэх сцвердзіў, што яшчэ многа чаго трэба зрабіць у галіне збожжавай прадукцыі, якая з'яўляецца найважнейшым заданнем сельскай гаспадаркі, а таксама ў галіне меліярацыі, жывёлагадоўлі, сельскагаспадарчага транспарту, будаўніцтва на вёсцы, забеспячэння вёскі ў ваду і лекарскую апеку. Тэмп забеспячэння патрэб вёскі залежыць перш за ўсё ад узросту прадукцыі.

Ахвярнай працай і перамаганнем цяжкасцей, — заявіў на заканчэнне Ч. Выцэх, — выкоўваем лепшае быццё для народа, прыгажэйшую будучыню для дарастаючага пакалення.

### ПРАБЛЕМЫ ПАРТЫІ І НАРОДА

Выступаючы 31 мая на справаздачна-выбарчай канферэнцыі партыі ў мазавецкіх нефтаперагонных прадпрыемствах сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Рышард Стшалецкі ахарактарызаваў актуальныя праблемы партыйнай дзейнасці. Прамоўца падкрэсліў перш за ўсё аграмадную палітычную і прадукцыйную актыўнасць працоўных мас, а асабліва рабочага класа, якая разбудзілася ў апошніх месяцах, асабліва пасля сакавіцкіх падзей. Грамадства краіны дало такім чынам свой рашучы адказ усім ворагам Народнай Польшчы. У далейшай частцы свайго выступлення Р. Стшалецкі ўказаў на пэўныя хібы ў дзейнасці некаторых партарганізацый, — «недастатковае супрацьдзеянне плёткам і інсінуацыям, бязглуздым, высасаным з бруднага пальца звесткам. Высоўваецца таксама часам нерэальныя, бяссэнсавыя пастулаты. З'явы гэтыя павінны бачыць партыйныя арганізацыі, павінны іх выясняць і супрацьдзейнічаць іх узнікаванню».

Ёсць аднак праблемы, якія мусяць пачакаць на развязку да моманту награмаджэння адпаведных сродкаў выпрацаваных праз увесь народ. Абавязкам партыйных арганізацый і паасобных членаў партыі з'яўляецца паясненне гэтых спраў, паказванне дасягненняў рабочага класа і ўсяго народа.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ЛЮДОВАЕ СВЯТА

Напярэдадні Людовага свята ў вёсках Беластоцкага ваяводства адбылося 1397 адкрытых сходаў, членаў Аб'яднанага людовага стронніцтва і Польскай аб'яднанай рабочай парыті. Прыняло ў іх удзел 50 тыс. асоб. На сходах гэтых удзельнікі разглядалі найважнейшыя мясцовыя справы. Між іншым, сяляне Беласточчыны прынялі 413 грамадскіх абавязацельстваў у гонар V з'езда ПАРП і V кангрэса ЗСЛь. Вартасць гэтых абавязацельстваў ацэньваюць на 12 мільёнаў злотых.

Асабліва ўрачыста ў нашым ваяводстве прайшла мінулая нядзеля. На ўрачыстасцях з нагоды Людовага свята, якія адбыліся ў вёсцы Срэбрна, Замбраўскага павета, прыехаў намеснік старшыні Рады Дзяржавы Балеслаў Падэдворны — наш зямляк. Прысутны на гэтых урачыстасцях быў таксама старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку Сцяпан Жмійка. У Срэбрнай адбыўся мітынг насельніцтва з навакольных вёсак, у якім прыняло ўдзел звыш 3 тыс. асоб. Адкрыта там новапабудаваную дарогу са Срэбрнай у Замбраў.

Урачыстыя мітынгі адбыліся ў 28-мі мясцовасцях Беластоцкага ваяводства ў тым ліку і ў Сухаволі, Дуброўскага павета. Вуліцамі гэтага мястэчка прайшоў каляровы карагод вучняў, на эстрадах выступалі аматарскія мастацкія калектывы, пажарнікі ў час спецыяльных спаборніцтваў дэманстравалі сваю супрацьпажарную спраўнасць.

### СВЯТА ДЗЯЦЕЙ

Наймалодшыя грамадзяне ваяводства 1 чэрвеня г. г. таксама ўрачыста адзначалі сваё свята — Міжнародны дзень дзіцяці. З гэтай нагоды ў цэлым ваяводстве адбылося шмат мерапрыемстваў. Між іншым, Беластоцкая жыллёвая спулдзельня перадала ў карыстанне для дзяцей дашкольнага ўзросту новы будынак дзіцячага саду, які пабудавана грамадскім чынам ў спулдзельчым жыллёвым квартале імя «Тысячагоддзя». Прыпамінаем, што старшынёй гэтай спулдзельні з'яўляецца Міхал Баравік.

### МІЛІЦЭЙСКАЯ АПЕКА

У мясцовасці Візна, Ломжынскага павета, міліцыянеры Беластоцкага ваяводства грамадскім чынам пабудавалі ў 1966 годзе школу, якая з'яўляецца помнікам тысячагоддзя нашай дзяржавы. На гэтым сувязь міліцыянераў са школай у Візне не закончылася. Нядаўна абсталявалі яны ў школе радыёвузел і тэлефон. Шмат дапамаглі ў падборцы навучальных пасобнікаў. Вартасць абсталявання і грамадскай працы ў карысць візненскай школы ацэньваюць на звыш 100 тыс. зл.

### НОВЫЯ ЧЛЕНЫ ПАРП

У Кляшчэлях, Гайнаўскага павета, экзекутыва Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы 30 мая г. г. правяла сваё выязное пасяджэнне. У час гэтага пасяджэння для 30 асоб былі ўручаны кандыдацкія білеты. Наступнага дня гарадскі камітэт ПАРП у Гайнаўцы прыняў у рады кандыдатаў ПАРП 44 асобы.




**NIEDZIELA, 9.VI.**

9.30 Program dnia. 9.35 TV Kurs Rolniczy: „Szkodniki drzew owocowych". 10.10 „Przypominamy, radzimy". 10.20 „Zawodowa oferta" (szkoły rolnicze). 10.30 PKF. 10.40 „Metamorfoza" — film jug. 10.55 „Pani z Montauban" — film („Przygody trzech muszkieterów"). 11.30 „W swiecie sztuki" (Sofia). 11.50 Wiadomości dziennika. 12.00 „Spotkania z przyrodą". 12.25 „Dni muzyki organowej we Wrocławiu". 12.45 „Od Westerplatte do Berlina" („W starym kinie"). 13.40 Dla dzieci: „Gdzie jest misio" — film CSRS. 14.05 „Sonda" — teleturniej. 15.00 Sprawozdanie sportowe. 16.30 „Przemiany". 17.00 „Doctor Honoris Causa" („Ludzie i zdarzenia"). 17.25 „Estrada literacka" — „Kwiatami ku niebu". 18.00 „Wopiści" (w przeddzień Święta Wojsk Ochrony Pogranicza). 18.20 „Śpiewające podwórka" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.10 „List do Carli" — film fab. rum. 21.20 Niedzielny Program Rozrywkowy: „Variete w studio" (Budapeszt). 22.00 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 10.VI.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV II roku. 16.25 i 23.10 Politechnika TV II roku. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.20 Dla młodych widzów: Teatr Młodego Widza": „Czarna Julia". 17.40 „Medale i detale". 18.00 „Pocztówka z Moskwy" — film TV radz. 18.15 „Eureka". 19.00 „Cena dyplomu" — program Red. Młodzieżowej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr TV Fr. Mauriac — „Asmodeusz". 21.20 „Droga na dno" — rep. filmowy. 21.45 „Klaps" — mag. aktualności filmowych. 22.15 Dziennik TV.

**WTOREK, 11.VI.**

10.00 Dla szkół (kl. III) „Stoi na stacji lokomotywa". 12.00 Dla szkół (kl. V i VI) Język polski „O miejsce wśród ludzi" (poszanowanie własności społecznej). 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Działalność Kółka Rolniczego". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 23.10 Politechnika TV II roku. 16.25 i 23.45 Politechnika TV II roku. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „To niedaleko" cz. II — gawęda turystyczna. 17.15 Dla młodych widzów: „Latający Holender wraca z rejsu dookoła świata". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 „Po szóstej" — TV Klub Młodzieżowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Szkoła życia" („7 milionów młodych"). 20.25 „Wiem wszystko" — teleturniej. 20.50 „Panorama Literacka". 21.20 „Jej siedem wieczorów" — film fab. CSRS. 22.50 Dziennik TV.

**SRODA, 12.VI.**

9.35 „Dwaj w stepie" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Świat dźwięków". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: „Metalurgia". 13.15 Przerwa. 15.45 Politechnika TV I roku. 16.25 Politechnika TV I roku. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Teatrzyk Kieszonkowy" — „Jak to właściwie będzie". 17.20 „Psotny kotek" — film pol. 17.30 PKF. 17.40 „Telekram". 17.50 Wszechnica TV: „Socjologia" cz. II. 18.20 „Polskie Montmorency" — film pol. 18.35 „Przegląd Muzyczny". 19.05 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Na japońskiej estradzie" — film rozrywk. 20.45 „Światowid". 21.15 Studio Współczesne: E. Kabatc — „Przesłuchanie Roberta W". 22.15 Dziennik TV. 22.30 „Porto Negro" — film fab. fr.

**CZWARTEK, 13.VI.**

9.50 Program dnia. 9.55 „Znachor" — film fab. pol. 11.35 „Artyści areny". 12.00 Wiadomości dziennika. 12.10 „Start i meta" — program sportowy. 13.10 „Rybacy" — program publ. 13.40 „Profesor Wilczur" — film pol. (archiwalny). 15.10 Dla młodych widzów: „Znaczek z orłem" — finał konkursu filatelistycznego. 16.10 „Metamorfozy" — program muzyczno-baletowy. 16.40 Reportaż filmowy z Międzynarodowych Targów Poznańskich. 16.50 Teatr TV: „Dziwny romans pana Balzaka". 17.45 Program filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr „Kobra": M. Brodowicz — „Kontrakt". 21.20 „Refleksje". 21.50 „Kobieta już nie jest aniołem" — program rozrywkowy. 22.35 Wiadomości sportowe.

**PIĄTEK, 14.VI.**

10.00 „Kłopoty z benzyną" — film fab. węg. 11.10 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne: „Na ratunek dziełom sztuki". 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 i 23.25 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci. „Zręczne ręce". 17.15 „Kino Filmów Amatorskich". 17.45 „Pieśni walczącej Grecji". 18.00 „Kiedy trzeba podjąć decyzję". 18.30 „TV Kurier Mazowiecki". 18.45 Wszechnica TV: „Przed milionami lat". 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 20.35 Teatr TV: T. Rittner — „Lato". Komedia. 21.55 „10 minut recenzji". 22.05 „Jakość i nowoczesność". 22.30 Dziennik TV.

**SOBOTA, 15.VI.**

8.30 „Strzał we mgle" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Indonezja". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: „W Afryce". 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: „Choroby bakteryjne drzew owocowych". 16.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.30 Program tygodnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów". 18.05 „Warszawa, ja i Ty". 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „Proszę dzwonić" — program rozrywkowy. 20.50 „Almanach" — przegląd zagranicznych wydarzeń artystycznych i kulturalnych. 21.20 Dziennik TV. 21.35 Wiadomości sportowe. 21.45 „Proszę dzwonić" — D.c. programu rozrywkowego z Łodzi. 22.05 „Georgy" — film fab. ang.




**Piątek, 7 czerwca**

8.05 Nowości. 8.15 Program dla szkół: Alibaba i 40 rozbójników. 8.30 Na polach kraju. 9.00 Program dla szkół: Wiatr wędrówek. 15.00 Nowości. 15.10 Program. 15.15 Film. 16.00 Do 50-lecia Komsomołu. Arszańskie spotkania. 16.30 Klub kinopodróżnika. 17.30 Koncert popularnych wykonawców piosenek radzieckich. 18.30 Sztafeta nowości. 19.30 Litewska telewizja „Pasłem ja konia". — Film. 19.45 „5+2" Tygodniowy przegląd. 20.15 Telewizyjny teatr miniatur. „Trzynaście krzeseł". 21.15 Tylko fakty.

**Sobota, 8 czerwca**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka dla wszystkich. 7.45 Telewizyjne nowości. 8.00 Z dniem urodzin. Muzyczny program. 8.30 Litewska telewizja. Bajka miesiąca. Film. 9.00 Dla studentów. Matematyka. 10.00 Fizyka. 11.15 Telewizyjna konferencja prasowa działaczy radzieckiej medycyny. 12.00 Wszystkie kolory wiesiołki. Z okazji Dnia pracownika przemysłu lekkiego. 12.40 Szkatułka muzyczna. 13.00 Operacja „Y" i inne przygoody Szuryka. Film. 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Tydzień błękitnego ekranu. Tygodniowy Przegląd. 16.25 Płomyk. Program z Woronieża. 17.40 Piłka nożna. Rzym. W przerwie — nowości. 20.10 Piłka nożna. Rzym.

**Niedziela, 9 czerwca**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Budzik. zyjny. Dzisiaj Dzień pracownika przemysłu lekkie- 7.45 Telewizyjne nowości. 8.00 Kalendarz telewi-go. 8.30 Koncert. Przegląd zespołów amatorskich. 10.00 Film telewizyjny z udziałem A. Rajkina. 11.30 W świecie sztuki. Program z Sofii. 11.50 Dla żołnierzy i marynarzy. Armii Radzieckiej. 12.40 Klub szachowy. 13.10 Kiosk muzyczny. 13.40 Dla was kobiety. 14.10 Wiecznie żywe słowo. 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Telewizyjny atlas narodów. 17.00 Koncert życzeń. 18.00 „Knot". Satyryczne czasopismo. 18.20 Litewska telewizja „Srebrne głosy". Film. 18.45 Siedem dni. Program międzynarodowy. 19.30 KWZ — 68. Finał. 21.30 Tylko fakty.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ЦРЫ ГП БГКТ № 114


## ПАЯДЫНАК НА ЛУЗЕ

Ідзем з Генем цераз луг да загарадзі па каровы і коні. Хтосьці выходзіць напроціў.

Генё спахмурнеў.

— Гэта Люцё!

— Чаго ён хоча?

— Мусі, біцца... Закасаў рукавы.

— Біцца? Чаму?

— Ён злуе на нас.

— Памалей ідзі, Геню.

— Баішся яго?

— Абач, граблі бярэ.

— Хто мае сілу, не возьме за граблі.

— Праўда.

Генё заціскаў кулакі і ішоў па сене, якое грабіў Люцё.

З-за капіцы сена выйшаў Стасё, малодшы брат Люця. Таксама ўзяў граблі. Не даходзячы да сцежкі, закрычаў:

— Куды!..

Люцё памагаў крычаць.

— Куды! Па сене ідзеш!

На пяць крокаў перад Люцем Генё стрымаўся. Люцю траслася галава і рукі ад гневу.

— Бі! — сказаў Генё.

— Падыдзі! Падыдзі!

— Хочаш? — Генё паказаў кулак і ступіў крок

Люцё адступіў.

— Даткніся толькі, — сказаў Генё. — Яшчэ ніхто табе касцей не палічыў...

Стасё цкаваў Люця:

— Лопні яго! Лопні па хрыбце!

Генё не вытрымаў. Скочыў. Люцё не паспеў замерыцца.

**Эдвард Ярашэвіч**






Удваіх вы ішлі па дарозе,
Ён цябе абмінуў і пакінуў
У жыцця непрыхільнай хвіліне,
Удваіх вы ішлі па дарозе.

Ён пакінуў цябе у знямозе
І пакрочыў уласнай сцяжынай.
Удваіх вы ішлі па дарозе,
Ён цябе абмінуў і пакінуў.

*

Ты руку мне падай, дарагая,
Праз жыццё нам лягчэй ісці разам.
Мне не трэба ніякіх адказаў,
Ты руку мне падай, дарагая.

Нас дарога чакае цяжкая,
Удваіх — палягчэе адразу.
Ты руку мне падай, дарагая,
Праз жыццё нам лягчэй ісці разам.

*

Я разок толькі глянуў у вочы,
Акунуўшыся ў іх, як у моры.
І цяпер мне і радасць, і гора.
Я разок толькі глянуў у вочы,
І спакою няма ўдзень і ўночы,
І душою і сэрцам я хворы.

*

З незвычайнай душою жанчына
Мне пасеяла ў сэрцы трывогу.
І мне болей не трэба нічога,
З незвычайнай душою жанчына.
Не шукаю ніякай прычыны,
Хоць прычын усялякіх ёсць многа.
З незвычайнай душою жанчына
Мне пасеяла ў сэрцы трывогу.

*

Мне да шчасця нямногае трэба,
Толькі ў сэрцы не мець адзіноты,
Адчуваць крышку ласкі, пяшчоты,
Мне да шчасця нямногае трэба.
Мець штодзённа скарыначку хлеба
І душы рамантычныя ўзлёты.
Мне да шчасця нямногае трэба,
Толькі ў сэрцы не мець адзіноты.

**Віктар Швед**

**Чаму так мала людзей напраўду думае аб тым, колькі жыцця свайго марнуе непатрэбна?**

**(УРЫВАК АПОВЕСЦІ)**

Здарылася непрыемнае.

Трэба ж, каб першыя дні пачаліся непрыемнай справай!

Пасыкнуўся званіць у міліцыю, але раздумаў. Запыталі б: хто, дзе, калі? Па чыёй віне? У якім месцы? Чаму так позна згледзелі?

Праклінаў здухамэнтамі адміністрацыйнага кіраўніка. Пашто было прымаць яе на працу?!

— Улады, пане, просяць прыняць адну, — казаў тады адміністрацыйны кіраўнік.

— Трэба, — сказаў яму, тамуючы роскаш свядомасці, што ўсё залежнае ад яго, дырэктара.

Былым прастытуткам Ліга жанчын сарганізавала шафёрскі курс. Трыццаць дзяўчат навучылася прафесіі шафёра, яны вярталіся да жыцця. Аб гэтым пісалі ў газетах.




Пісалі ў «Беластоцкай газеце».

— Маем вольнае месца на шафёра «Нысы», — казаў адміністрацыйны кіраўнік. — Хай ездзіць баба.

— Парадак, — згадзіўся. І дадаў з усмешкаю: — Глядзіце, каб маладых рабочых не пабунтавала...

— Цяжка будзе... — заіржаў адміністрацыйны кіраўнік.

— Ну, — гікнуў талковым голасам і пачалі абмяркоўваць іншыя справы.

Прыгожая дзяўчына-шафёр папрацавала тыдзень і знікла. У панядзелак не з'явілася ў працы, думалі, загуляла ў нядзелю дзе-лень, па старой прывычцы. У аўторак не прыйшла. Адміністрацыйны кіраўнік паехаў да яе на кватэру. Мо хворая? Кватэра замкнёная наглуха, пад дзвярыма пыл.

Кіраўнік прыбег без духу:

— Пане дырэктар: у «Нысе» апоны пакралі, прыборы пакралі!.. Усё пакралі...

— У «Нысе»?

— Ага.

— Яна!

— Яна, халера!

У расчыненых дзвярах кабінета насмешлівы твар сакратаркі. Яе твар, калі сур'ёзны, падобны да таго, які толькі што перастаў смяяцца.

— На міліцыю! — крыкнуў адміністрацыйны кіраўнік.

— Зараз зараз. Спакойна, — папрасіў яго і сказаў: — Сядзем і перадумаем.

— Што тут думаць!

Паселі за кафейным столікам. Сакратарка зачыніла дзверы, з кімсьці гаварыла, камусьці расказвала. Адміністрацыйны кіраўнік закурыў зверабойную гаванскую «Партагас», кашлянуў і гаварыў абрывіста. Не дагаварылі да канца, калі ў дзвярах паказалася сакратарка, а за ёю нейкі рабочы.

Рабочы затупаў па дыване.

— Дзень добры, пане дырэктар.

— Пан бачыў яе сёння, — сказала сакратарка, кіўнуўшы ў бок рабочага.

— Так. Па-суседску...

Рабочы прыйшоў да сакратаркі ў справе пропуску.

— Па-суседску?

Рабочы сказаў далёкі адрас.

— Там такая сям'я, крадзяжом жывуць...

— Пазнала вас? — пыталі, ці дзяўчына пазнала яго.

— Не. Не ведае, што я тут працую. Убачыў у акне... Напэўна.

— Дзякую вам.

Адміністрацыйны кіраўнік курыў і маўчаў, маўчаў і курыў. Рабілася лягчэй. Калі рабочы пайшоў, азваўся:

— Злодзей злодзеем будзе, — гэта абазначала: злавілі птушку!

Абціх зусім.

— Колькі апонаў няма?

— Дзве.

— А з прыбораў?

— Лічыльнік.

— Дзе вочы ў старажоў! — як бы сказаў: дзе вочы ў адміністрацыйнага кіраўніка, які столькі часу не правяраў шафёра.

Віна за тое, што здарылася, на яго баку: адказны за транспарт, персанал, старажоў, дысцыпліну. Дырэктар адказвае за найважнейшае — за прадукцыю, яе якасць і колькасць. За план прадукцыі, рэалізацыю. Не, нельга пазбывацца адміністрацыйнага, яго шырокія сувязі могуць быць прыдатнымі... Прыдадуцца. Выратаваць яго ад бяды і ён падзякуе. Ці падзякуе? Падзякуе, не падзякуе, спрабаваць варта.

— На міліцыю нельга званіць, — сказаў яму. — Разумееце?

— Што рабіць? — ён абціх і зразумеў.

— Я бяру на сябе.

— Вы? На сябе? — вочы прасілі квітанцыі на гэтыя словы.

— Так, — і ў тую ж хвілю пашкадаваў сказанага. У запацелых далонях трымаў страх. — Скажыце ўсім, каб маўчалі. Рабочаму скажыце, каб не заглядаў у вокны той кватэры. Важнае, усім маўчаць.

— Што вы хочаце зрабіць?

— Падумаю.

Устаў, і адміністрацыйны кіраўнік устаў. Падзякуе, напэўна падзякуе, выйшаў з сінякамі на душы, але не паранены.

Не пакідала думка пра адміністрацыйнага кіраўніка, пра яго сувязі. Пазваніў да жонкі і запытаў пра здароўе, учора мела лёгкую гарачку. Здзівілася, што звоніць. Сеў за пісьмовым сталом і напісаў пісьмо да зладзейкі. «Шаноўная Пані! Перасылаем тыднёвы заробак. Шкада, што не будзеце працаваць у нас далей»... думаў, як напісаць найважнейшае? Напісаў: «Гэта залежыць толькі ад Пані. Чакаем да пятніцы, да 10.00 гадз.». Прачытаў і скрывіўся, коратка і няясна: ёй павінна быць ясна. Падпісаўся.

Пісьмо і грошы выслаў сам, грошы свае. Выразна выпісаў адрас, пад якім хавалася. Ці прозвішча не фальшывае? Што падумала сакратарка, калі папрасіў фірменныя пячаткі? Дала, не пытаючы. Ці выразна адціснуліся пячаткі на канверце і бланку грашовага пераводу? Не глядзеў, на пошце вялікая чарга і вялікі спех.

Што робіць цяпер адміністрацыйны кіраўнік? Мо пісьмо трэба б паслаць заказным?

Назаўтра пасядзеў у кабінеце да дзевятай гадзіны.

— Іду на нараду, — сказаў сакратарцы.

Вынырнуў на вуліцу і ў горад: нарада была незвычайна кароткай і ўжо каля першай гадзіны мог вярнуцца. З вулічнага тэлефона-аўтамата пазваніў сакратарцы і налгаў, што нарада зацягнецца да канца дня.

Дома спрабаваў чытаць кніжку, але ад таго ў кватэры рабілася страшэнна ціха. Зайшоў у кухню і пачаў гатовіць абед, перастаўляць гаршкі.

Вечар правёў пры тэлевізары. Жонка не паказвалася ў пакоі, адчула дрэннае. Курыў і курыў.

У пятніцу рана ўбачыў зладзейку, сядзела на крэсле каля стала сакратаркі. Сакратарка яшчэ не прыйшла, да пачатку працы заставалася паўгадзіны.

Маўчала і бялела.

— Проша, — паказаў ёй дзверы ў кабінет.

Увайшла і заплакала.

— Не трэба, — сказаў, быццам да маладой удавы. Першы раз чуў такі плач: ціхі і накоцісты, гамаваны з цэлай сілы.

Адміністрацыйны кіраўнік кудысьці прапаў у памяці.

**Сакрат Яновіч**

P.S. **«Ён і іншыя»** — аповесць, якая рыхтуецца да друку ў выдавецтве ГП БГКТ.




Герояў ужо няма — асталіся мундзіры,
На вешалках яны, як на парадзе —
Блішчаць у эпалетах на дзень,
А ноччу гінуць у шматзначных дзірках.

Гніе у музеях гістарычнае лахмоцце,
Бяздушнае, няветрана, сляпое...
Сястра дваюрадна на плоце
Раны ліжа, вярнуўшыся з поля.

Уся у калоссі, уся у ячмені,
Пранізана сонцам, ветрам натхнёна.
Што зернямі страляла са жмені,
Якая ўваскрашала загоны —

Спіць чалавек на скошаным поплаве.
Вопратка высахла і робіцца цёплаю.

**І. Чыквін**




**Тваё ўсё — маё нічога.**
**І я, як нейка павуціна,**
**Развешана паміж табой і богам**
**Не ведаю, ці я ўжо гіну,**
**Ці нараджаюся зноў гімнам.**

**Хваліць мяне не хваліш ты,**
**І ты скупая ў многім —**
**Жывую думку ў арышце**
**Палоніш, ці кідаеш пад ногі,**
**Бо ўсё тваё — маё нічога!**

**Усё тваё — маё нічога?**
**О, самаабман, о, дурната**
**Душы яхіднай і убогай...**
**А сэрца ты сваё катам,**
**Як мыш здохлую, аддай —**
**Ты не чалавек, а зброя,**
**Жмут нерваў, бліскавіца, рогат,**
**Перад пажарам Троя —**
**Я да цябе на каленях з парога,**
**Бо ты — усё, а я — нічога.**

**І. Чыквін**

# Матура

Аграмадная гімнастычная зала беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім, 22 мая 1968 года. За школьнымі партамі засела 66 абітурыентаў, каб прыступіць да пісання матуральнай пісьмовай працы на беларускай мове. Цішыня. У зале чуваць шорах распячатваемага канверта з тэмамі пісьмовых прац. Яшчэ большая цішыня, і толькі голас члена экзаменацыйнай камісіі, які чытае тэмы, неяк гучыць вельмі ўрачыста і важна. Усё ўжо стаецца ясным, застанецца толькі выбраць адну з трох тэм. І гэтая справа хутка вырашаецца. Першую тэму **«Вобраз гераічнай барацьбы беларускага народа з нямецкім захопнікам у часе Вялікай Айчыннай вайны ў творчасці беларускіх пісьменнікаў»** — вырашае пісаць 29 абітурыентаў. Другую тэму **«Францішак Багушэвіч — прадстаўнік беларускіх пісьменнікаў рэалістаў»** — піша 7 асоб, а трэцюю **«Лёс народных талентаў ва ўмовах класавага грамадства на аснове вядомых мне твораў беларускай літаратуры»** — піша 30 абітурыентаў.

Цяпер асталася толькі марудная чатырохгадзінная праца. Трэба ўсё прыпомніць, што накапілася на даную тэму за некалькі год навукі ў школе. Трэба ўпарадкаваць думкі, пераанaлізаваць іх і прыступіць да пісання на чарнавіку. Потым перапісванне на



Агульны від экзаменацыйнай залы.



Мінутны перапынак на другое снеданне.

чыста, гэта ў асноўным фармальная справа, але патрабуючая таксама напружання думак. Выгляд абітурыентаў сведчыць аб тым, што матуральныя тэмы па беларускай мове ім блізкія. А гэта важна.

Паколькі абітурыенты пішуць, мы знаходзім час на некалькі слоў з **дырэктарам школы: Міколам Гайдуком.** Паінфармаваў ён нас, што з агульнага ліку **68** вучняў 11 класа толькі **3** не дапушчана да матуры, а **1** асоба здае з мінулага года. Каля 40 абітурыентаў беларускага ліцэя выбіраецца на 4—5-гадовыя вышэйшыя ўстановы. Найбольш кандыдатаў выбрала ВСІнж. у Беластоку, 4—5 асоб хоча паступіць на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта, шмат на ВСР, універсітэты і палітэхнікі, а таксама, хіба ўжо традыцыйна, на ВАМ і ВАТ. Некаторыя рыхтуюцца да т.зв. паматуральных школ, а толькі 8—9 чалавек адразу выбіраецца да працы.

Згодна з правіламі матуральных экзаменаў абітурыенты могуць быць звольнены з вусных экзаменаў, калі ў 10, 11 класах на канец года мелі ацэнку не меншую чым 4 (добра). У Бельскім ліцэі з гісторыі звольнена — 14 асоб, а з рускай мовы — 38. Згодна з гэтымі ж правіламі абітурыенты выбралі наступныя прадметы: хімія — 14 асоб, біялогія — 12 асоб, фізіка — 19 асоб і геаграфія — 21 асоба.

На вынікі матуральных экзаменаў трэба пачакаць, але гэта абсалютна не перашкаджае, каб усім абітурыентам будучым абсальвентам павіншаваць атэстату сталасці.

**А. Карпюк**



Лідзія Орда, адна з выдатніц адзінаццатага класа, у час пісання матуральнай працы.

# Выстаўка турыстычных карт у Белавежы

Выстаўка трупуе турыстычныя карты Польшчы і суседніх краін. Экспануецца ў святліцы ПТТК (у Палацовым парку). **Арганізавана Таварыствам прыяцеляў Белавежы пад патранатам Дзяржаўнага картаграфічнага выдавецтва.**

Некалькі слоў аб самой экспазіцыі. Знойдзем тут карты выдадзеныя ў 1945—1968 гадах:

1. з Польшчы — карты прадстаўляюць усю краіну і самыя цікавыя турыстычныя раёны,
2. з Чэхаславакіі, ГДР, Венгрыі, Румыніі, СССР — карты гэтыя пазычаны членамі Таварыства прыяцеляў Белавежы спецыяльна на выстаўку.

На выстаўцы экспануецца таксама пробная адбітка турыстычнай карты Белавежскай пушчы ў маштабе 1:90000. Па ініцыятыве Таварыства прыяцеляў Белавежы карту апрацавалі Р. Б. Фалінскі пры ўдзеле Н. Альшэўскай і Е. Айжанэўскага.

Турыстычная карта Белавежскай пушчы будзе ў продажы ў кнігарнях у канцы І паўгоддзя г. г.

вл

дзяўчынка з букетам кветак у руках. Парад набліжаўся. Хтосьці штурхнуў яе: «Ідзі! Падай кветкі!» — і дзяўчынка зграбна выскачыла на сярэдзіну вуліцы. Надта ж баялася коней, паднесла галоўку ўверх, каб толькі не глядзець на конскія капыты. Была вельмі збянтэжана, тым больш, што кветкі былі крадзеныя ў суседскім агародзе, бо нідзе ўжо кветак не было. Ва ўсім горадзе градкі былі абараваны. Дзяўчынка падала кветкі генералу Берлінгу.

Салдаты мелі чырвоны сцяг, невялікі і скромны, з таямнічым надпісам: «ЗМПП, раён Свярдлоўск», а на другім баку быў арол без кароны і надпіс: «Няхай жыве Народная Польшча!» Усё гэта было зроблена дзесьці далёка, польскімі жанчынамі выгафтавана белай звычайнай ніткай па чырвонай насыпцы ад падушкі.

З балкона Гмаху ў час гістарычнага мітынгу быў прачытан Маніфест. Пасля поўдня плютановы Мінскі з тым другім салдатам расклейвалі ў горадзе надрукаваны тэкст Маніфеста.

**ЯНУШ РОШКА**
З кнігі «Імя маёй зямлі»

1. У які час (месяц і год) адбываюцца падзеі апісаныя ў рэпартажы?
2. Растлумачце, як вы разумееце сказ: «Прыехала на вуліцу Жаромскага Гісторыя».
3. Раскажыце, у якіх умовах друкаваўся першы дакумент народнай улады — Маніфест.
4. Як жыхары Хэлма віталі сваіх вызваліцеляў?

# БГКТ

## НАРАДА АКТЫВУ БГКТ БЕЛАСТОЦКАГА ПАВЕТА Ў РЫБАКАХ

Субота, 18 мая, была незвычайным днём для жыхараў вёскі Рыбакі і акалічных вёсак. Менавіта ў гэты дзень у мясцовай школе адбылася нарада актыву БГКТ Беластоцкага павета. Нараду арганізавала праўленне аддзела БГКТ у Міхалове. На нарадзе прысутнічаў сакратар Галоўнага праўлення БГКТ тав. Уладзімір Юзвюк. Нараду адкрыў старшыня праўлення аддзела грам. Янка Палоцкі. Звярнуў ён увагу на неабходнасць актывізацыі працы існуючых гурткоў БГКТ і разбудову радоў арганізацыі. Прысутныя, якія забіралі голас, дамагаліся больш частых сустрэч з дзеячамі БГКТ, дэманстрацыі савецкіх фільмаў, выступленняў мастацкіх беларускіх калектываў і іншых культурна-разрыўковых мерапрыемстваў. На нарадзе высунута прапанову арганізаваць беларускі фестын. Ён адбудзецца ў Рыбаках у канцы чэрвеня. За арганізацыю фестына адказны гурток БГКТ у Рыбаках, якога старшынёй з'яўляецца Мікалай Хлябіч.

Пасля нарады адбылася сустрэча насельніцтва з сакратаром Галоўнага праўлення БГКТ тав. Уладзімірам Юзвюком. Расказаў ён аб дзейнасці БГКТ, аб задачах членаў таварыства ў бліжэйшым часе. Вельмі абшырна тав. Юзвюк гаварыў аб справах гаспадарчых, аб вялікіх магчымасцях сельскагаспадарчага прагрэсу, які стварыла партыя для насельніцтва вёскі. Прысутныя з вялікім зацікаўленнем выслухалі выступленне тав. Юзвюка і прасілі, каб часцей сустракацца.

**А. Баршчэўскі**
інструктар БГКТ у Міхалове

# Абавязацельствы

(Працяг са стар. 1)

кую рамізу, пункт скупу малака, праклясці ходнік даўжынёю 500 метраў, пабудаваць дарогу даўжынёю 3 кіламетраў. Хвала вялікім намерам і творчаму энтузіязму жыхараў Новаберазова, цяжка аднак паверыць, каб тыя абавязацельствы маглі быць выкананы. Не трэба дадаваць, што невыкананыя абавязацельствы прыносяць больш дрэннага чымсьці добрага. Дэмаралізуюць яны іх удзельнікаў, прывучаюць прымаць абавязацельствы без пачуцця адказнасці за іх, прызвычайваюць, як кажуць, «кідаць словы на вецер».

Падобныя дэмаралізуючыя вынікі даюць абавязацельствы, якім не хапае адпаведнага тэхнічнага забеспячэння. Часам бывае і так, што абавязацельствы свае выконвае насельніцтва, а не выконваюць іх улады абавязаныя да падтрымкі прац грамадскім чынам. У выніку стаяць неаднойчы цэлымі гадамі ды нішчацца пабудаваныя грамадскай працай зрубы будынкаў, на заканчэнне якіх не хапіла сродкаў, або расплываюцца ў вясенніх растопах пачатыя дарожныя працы.

Усё гэта знеахвочвае. Грамадская ініцыятыва — гэта вялікі капітал не толькі ў эканамічным сэнсе. Гэта перш за ўсё капітал палітычнай актыўнасці мас. І таму адпаведныя ўлады павінны падыходзіць да гэтай ініцыятывы з асаблівай увагай.

**Ул. Паўлючук**

# Камюніке педагагічнай бібліятэкі

**Паведамляем, што Педагагічная ваяводская бібліятэка ў Беластоку змяніла сядзібу і адрас. Зараз яна знаходзіцца на вуліцы Касцельнай 9, тэлефоны: 76-17 і 74-77.**

**Бібліятэка працуе ў кожны дзень за выключэннем нядзель і свят. Пазычальня адкрыта ў гадзінах ад 10 да 18. Чытальня галоўная, чытальня часопісаў і навуковая (ІІ паверх) адкрыта ў гадзінах ад 10 да 19.**

*

Педагагічная ваяводская бібліятэка ў Беластоку мае 40 тысяч кніг. 40 прац. кнігазбору — гэта педагагічная літаратура, 21 прац: — навуковая і навукова-папулярная літаратура, 14 прац. грамадска-палітычная і іншая.

Бібліятэка мае 162 загалоўкі часопісаў, сярод іх 25 заграннічных.

Бібліятэка мае ўсебаковую інфармацыю аб літаратуры і метадах выбару кніжак. Дастаўляе патрэбную і актуальную бібліяграфію, пазычае на запатрабаванне кніжкі з іншых бібліятэк і з-за граніцы.

Высылае поштай па заказах чытачоў патрэбныя кніжкі.

На месцы ў бібліятэцы ёсць багаты збор энцыклапедый, слоўнікаў, статыстычных гадавікоў, альбомаў. (вл)

# Ахвяравальнікі на Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы

У вёсках Беластоцкага павета паспяхова праводзіцца зборка добраахвотных складчын на пабудову Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. І так, пачатковая школа ў Лупляньцы Старой уплаціла 100 зл, гурток БГКТ у Боўтрыках — 50 зл, пачатковая школа ў Круглым Ляску — 50 зл. Складчыны ўплочваюць не толькі паасобныя ўстановы, але і індывідуальныя асобы. Напрыклад, Адольф Дзядзёла, фельчар медыцыны з Юшкавага Груда уплаціў 20 зл, а Валя Кузьміцкая і Таіса Ляўшук — па 10 зл.

На ўвагу заслугоўваюць таксама: медыцынская сястра з Шымак Валя Салавей і двух братоў Лявонь і Рыгор Лукшы з вёскі Цясоўка.

**А. Баршчэўскі**
інструктар БГКТ
у Міхалове

# ІВАНА МЕЛЕЖА-LUDZIE NA BŁOTACH

Ужо другі раз у гэтым годзе выпаў нам мілы абавязак паведаміць чытачоў «Нівы» аб выпуску польскім выдавецтвам кніжкі беларускага пісьменніка; пісалі мы аб выпуску кніжкі «Serce na dłoni» Івана Шамякіна.

Нядаўна варшаўскі PIW — Дзяржаўны выдавецкі інстытут — выдаў кніжку «Ludzie na błotach» Івана Мележа, вядомага беларускага празаіка. Пераклад на польскую мову зрабіў Эўгеніуш Кабатц, польскі празаік і эсэіст маладога пакалення. Пераклад выдатны, захаваны адценні стылю арыгінальнага тэксту — Кабатц нарадзіўся і вырас на Гродзеншчыне (у Ваўкавыску), ведае жывую беларускую мову і глыбока цікавіцца Беларуссю. Кніжцы Мележа пашанцавала мець добрага перакладчыка. А варшаўскі ПІВ паклапаціўся аб старанлівую рэдакцыю кніжкі і прыгожую глянцаваную вокладку з народнымі матывамі.

Змест кніжкі — поўнае лірызму, але таксама драматызму каханне двух хлопцаў да адной дзяўчыны, і на фоне гэтага кахання вялікія справы малой палескай вёскі, загубленай сярод пустак ды балот.

(ся)

 

# НАШ СЛАЎНЫ ЗЯМЛЯК



**Памёр наш выдатны зямляк — Маршал Савецкага Саюза Васіль Сакалоўскі. Прах Маршала пахаваны ў Крамлёўскай сцяне. Ніжэй змяшчаем характарыстыку Васіля Сакалоўскага, падпісаную кіраўнікамі партыі, урада і Ўзброеных Сіл СССР, якую 11 мая г.г. надрукавала «Праўда».**



**МАРШАЛ САВЕЦКАГА САЮЗА ВАСІЛЬ ДАНІЛАВІЧ САКАЛОЎСКІ**

10 мая 1968 года пасля цяжкай хваробы памёр выдатны ваенны дзеяч, кандыдат у члены ЦК КПСС, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, Герой Савецкага Саюза, Маршал Савецкага Саюза Васіль Данілавіч Сакалоўскі.

У асобе В. Д. Сакалоўскага савецкі народ і яго Узброеныя Сілы панеслі цяжкую страту. Ад нас пайшоў адзін з актыўных будаўнікоў Узброеных Сіл СССР, праслаўлены герой Вялікай Айчыннай вайны, верны сын сацыялістычнай Радзімы і Камуністычнай партыі.

В. Д. Сакалоўскі нарадзіўся ў 1897 годзе ў вёсцы Козлікі Беластоцкага павета Гродзенскай губерні ў сям'і селяніна. Усё сваё свядомае жыццё ён прысвяціў служэнню Савецкай Радзіме, умацаванню яе абароннай магутнасці. У лютым 1918 года Васіль Данілавіч добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію і з таго часу няспынна, звыш 50 гадоў знаходзіўся ў баявым страі, прайшоўшы шлях ад курсанта да Маршала Савецкага Саюза.

У гады грамадзянскай вайны В.Д. Сакалоўскі актыўна ўдзельнічаў у баях супраць белагвардзейцаў і інтэрвентаў на Усходнім, Каўказскім, Паўднёвым і Туркестанскім франтах, камандуючы ротай, палком, брыгадай. Пасля заканчэння ў 1921 годзе Ваеннай акадэміі ён займаў пасады камандзіра дывізіі, начальніка штаба корпуса, начальніка штаба акругі, намесніка начальніка Генеральнага штаба Чырвонай Арміі.

Васіль Данілавіч меў шырокі ваенны кругагляд, глыбокія веды ваеннай тэорыі, вялікія арганізатарскія здольнасці. Гэтыя якасці военачальніка асабліва яскрава праявіліся ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. На адказных пасадах начальніка штаба, а затым камандуючага войскамі Заходняга фронту, начальніка штаба, 1-га Украінскага фронту, намесніка камандуючага войскамі 1-га Беларускага фронту ён прымаў непасрэдны ўдзел у распрацоўцы і ажыццяўленні буйных баявых аперацый па разгрому нямецка-фашысцкіх войск пад Масквой, Арлом і Курскам, пры вызваленні Смаленска, на Вісле і Одэры і ў заключнай пераможнай бітве за Берлін.

**Ваенны савет Заходняга фронту. Злева направа: камандуючы фронтам генерал арміі Г. К. Жукаў, начальнік штаба генерал-лейтэнант В. Д. Сакалоўскі, член Ваеннага савета І. С. Хахлоў (зіма 1941/42 г.)**



У пасляваенны перыяд В. Д. Сакалоўскі з'яўляўся галоўнакамандуючым групай савецкіх войск і галоўнакамандуючым адміністрацыі ў Германіі, а затым першым намеснікам Генеральнага штаба Узброеных Сіл СССР. Апошнія гады знаходзіўся на пасадзе генеральнага інспектара Міністэрства абароны СССР. Ён аўтар раду ваенна-тэарэтычных прац, прысвечаных актуальным праблемам савецкага ваеннага будаўніцтва, стратэгіі і аператыўнага майстэрства.

В. Д. Сакалоўскі актыўна ўдзельнічаў у партыйнай і грамадска-палітычнай рабоце. Быў дэлегатам XIX, XX, XXI, XXII і XXIII з'ездаў партыі, неаднаразова выбіраўся ў састаў ЦК КПСС. Ён з'яўляўся дэпутатам другога і наступных скліканняў Вярхоўнага Савета СССР.

За выдатныя заслугі перад Радзімай В. Д. Сакалоўскаму прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Ён узнагароджан васьмю ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, трыма ордэнамі Суворава І ступені, трыма ордэнамі Кутузава І ступені, многімі медалямі СССР. Удастоен таксама ордэнаў некаторых замежных дзяржаў.

Светлая памяць аб выдатным ваенным дзеячу, палымяным патрыёце сацыялістычнай Радзімы, герою Вялікай Айчыннай вайны — Васілю Данілавічу Сакалоўскаму назаўсёды захаваецца ў сэрцах савецкага народа, воінаў нашых доблесных Узброеных Сіл.



**Чырвонасцяжны зал Цэнтральнага Дома Савецкай Арміі. Ля труны В. Сакалоўскага на ганаровай варце (злева направа): М. Суслоў, А. Касыгін, Л. Брэжнеў, М. Падгорны, Г. Воранаў, А. Шэлепін, Д. Палянскі, К. Мазураў.**




Лес ва Усходняй Прусіі, непадалёку ад Растэнбурга. Такі холад, што здаецца — не другая палавіна сакавіка цяпер, а лютая зіма. У бетонным укрыцці, куды з ходу заруліў самалёт, напагатове стаіць «мерседас». Канарыс і Фогеляйн перасядаюць у машыну. Па спадзістым пандусе яна выскаквае на дарогу, замаскаваную ў гушчары, імкліва набірае хуткасць.

І аэрадром, і лес, і гэтая шаша — зона стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага германскімі збройнымі сіламі, глыбока засакрэчанага логава Гітлера, гэтак званае «Вольфшанцэ».

Першая праверка дакументаў — перад шырокім ровам, за якім узвышаецца пяціметровая драцяная сцяна. Другі кантроль — ля сцяны з жалезнай сеткі — і «мерседас» уязджае на тэрыторыю ўласнай стаўкі.

Вядома, пасты шматлікай аховы, кальцамі акружаючыя сховішчы Гітлера, ведаюць, каго вязе асабісты аўтамабіль начальніка штаба вермахта Вільгельма Кейтэля. Але ні Кейтэль ні Канарыс тут не гаспадары. Ахову стаўкі фюрэра нясуць людзі Гімлера — дакладна адфільтраваны падраздзяленні СС.

Канарыс і Фогеляйн выходзяць з машыны і ўглыбляюцца ў бетонную траншэю, якая коса ўрэзваецца ў падножжа вялікага ўзгорка.

Зноў праверка дакументаў. Два шарфюрэры СС з батальёна лейбштандарт «Адальф Гітлер» дакладна вывучаюць пасведчанні наведвальнікаў, абмацваюць позіркам вопратку Канарыса і Фогеляйна: ці няма зброі? І ўрэшце ківаюць у бок ліфта.

Прыняўшы пасажыраў, жалезная клетка мякка поўзае ўніз.

Службовы бункер Гітлера. Сцены ў дубовых панелях, высокая лапная столь, яркае святло спецыяльных лямп ствараюць ілюзію сонечнага дня. Не скажаш, што гэта глыбокае падзямелле і над ім шматметровы слой сталі, бетону, зямлі, які не прабіць ніякай бомбай.

Гітлера яшчэ няма.

Выклікаыня апускаюцца ў крэслы непадалёку пісьмовага стала. Але вось ад'ютант генерал. Шмундт адчыняе дзверы, і ў кабінет уваходзіць Гітлер, за ім ідзе Гімлер.

Канарыс і Фогеляйн устаюць. Адмірал не зводзіць вачэй з фюрэра. Зараз усё вырашыцца.

Той моўчкі ідзе да стала, сядае за стол, рухам рукі запрашае сесці Гімлера, кіўком галавы вітаецца з выклікаными.

Канарыс дакладвае — коратка, дакладна падбіраючы словы, каб не сказаць лішняга.

— Хопіць! — Гітлер моршчыцца. — Хопіць, я ўжо ўсё зразумеў: ён адмаўляецца. Сядайце!

Прыбыўшыя апускаюцца ў крэслы. І хоць Гітлер злосны, Канарыс адчувае: гэта не з-за адмовы Франка. Па сутнасці фюрэр і не мог спадзявацца на ўступленне Іспаніі ў вайну. У абставінах, калі германскія арміі ўсё больш адкочваюцца да граніц уласнай дзяржавы, афіцыйнае ўступленне Іспаніі ў вайну на баку дзяржаў восі для Франка было б раўназначна самагубству. Чым жа тады выкліканы гнеў фюрэра?

— Дзе ўніверсальныя ўзрывацелі для тарпед? — пытае Гітлер. — Дзе гэта фантастычна важнае вынаходства амерыканцаў, аб якім мне пратрубілі вушы? Колькі год яшчэ чакаць, калі вы ўрэшце дастанеце яго, пане адмірал?

Канарыс кідае касы позірк у бок правадыра СС. Той абыякава круціць у руках аловак. Нават крыху адвярнуўся, быццам наогул не мае ніякіх адносін да размовы. Але можна не сумнявацца: гэта ён, Гімлер, параіў паслаць Канарыса ў Іспанію, хоць наперад ведаў, што місія асуджана на няўдачу. Ён жа прыпомніў фюрэру і аб зацягнуўшыхся пошуках новых тарпедных узрывацелях амерыканцаў...

— Мой фюрэр, — адказвае Канарыс, — я ўжо дакладваў: пакуль удалося толькі знішчыць самалёт з вядучымі інжынерамі праекта і асноўнымі чарцяжамі вынаходства. Хутка ў нашых руках будзе і само вынаходства.

— Хутка, хутка!.. — Гітлер грудзьмі лягае на стол, упрытык разглядае шэфа сваёй ваеннай разведкі і раптам пытае:

— Вы нічога не ўтойваеце ад мяне?

Канарыс глытае камяк. Ад усіх, у тым ліку і ад фюрэра, утоена не толькі тайна гібелі «Віперы», але і пакаранні яе камандзіра. Канарыс вырашыў, што раней трэба дастаць сейф з чарцяжамі ўзрывацеля, а ўжо потым заняцца дакладамі на гэту тэму.

Ён з цяжкасцю вытрымлівае цяжкі позірк фюрэра. Уздыхнуўшы, Гітлер прыймае папярэднюю позу.

— Мы яшчэ вернемся да гэтай гутаркі... А пакуль адкажыце. Знаёма вам такое імя: Альберт Эйнштэйн?

— Вядома, мой фюрэр.

— Як жа здарылася, што яго выпусцілі з краіны?

Канарыс раскладае рукі:

— Фізік Эйнштэйн эмігрыраваў з Германіі ў Злучаныя Штаты год дзесяць назад. Мой фюрэр, вы назначылі мяне кіраўніком ваеннай разведкі два гады потым.

— Ну, а фізік Бор? — наступае Гітлер. — Дзе ён?

Канарыс мог бы адказаць: Нільс Бор, кіраўнік інстытута тэарэтычнай фізікі Капенгагенскага універсітэта, таксама не лічыцца за абверам. Вучонымі ў акупаваных Германіяй краінах займаецца гестапа і СД. Але Канарыс маўчыць. У кабінеце Гітлера трэба ўмець маўчаць...

— Дзе цяпер Бор? — працягвае Гітлер. — А, вы не ведаеце! Дык я скажу вам. Ён таксама ўцёк. І цяпер у кампаніі з Эйнштэйнам і іншымі ліхаманкава стварае за акіянам атамную бомбу, каб чым хутчэй кінуць яе на нашы галовы... Вось каму вы далі магчымасць уцячы, адмірал!

Гітлер устае з крэсла моўчкі перасякае кабінет ля супрацьлеглай сцяны, дзе вісіць вялікая карта свету.

Канарыс і Фогеляйн бачаць: позірк фюрэра накіраваны на Паўночную Амерыку. Вось ён працягнуў да карты руку, пастукаў па ёй сагнутым пальцам, павярнуўся да кіраўніка абвера.

Штат Нью-Мексіка, адзначыў Канарыс.

— Тут, — гаворыць Гітлер, — тут амерыканцы працуюць над стварэннем атамнай бомбы... Ведаеце вы аб гэтым, пане Канарыс?

Генрых Гімлер з цікавасцю глядзіць на Канарыса. Сакрэт дастала разведка РСХА. Таму ён, правадыр РСХА, так спакойна праглынуў пілюлю Канарыса. Ну, што адкажа Канарыс, як выкруціцца?

— Так, мой фюрэр, сёе-тое ведаю, — заяўляе адмірал. І гэта так нечакана, што Гітлер разгублена апускае рукі.

— Вы ведалі аб гэтым? — перапытвае ён. — Ведалі і не сказалі ні слова?

— Я дзейнічаю, мой фюрэр. Вось тут, — Канарыс падыходзіць і паказвае на карце, — каля горада Санта Фе створаны комплекс сакрэтных лабараторый і прадпрыемстваў. Шыфр праекта: «Манхетан».

— У якой стадыі работы? Кіраўнікі — Эйнштэйн і Бор? — Гітлер нервуецца.

— У якой стадыі работы, цяжка сказаць. Мая служба занята ўдакладненнем... Так, Эйнштэйн і Бор — удзельнічаюць. Але кіруюць не яны.

— Хто ж?

— Гаспадар праекта — Юліус Роберт Апенгаймер.

— Немец?! — крычыць Гітлер.

— Сын эмігранта з Германіі. Вучыўся ў нас. Да аднаго з памочнікаў гэтага чалавека я і намагаюся знайсці ключы...

Гітлер ідзе да стала. Вось ён сеў у крэсла, апусціў галаву. Божа, якія дурні акружаюць яго! «Бомба, у якой дзейнічае энергія атама? Хімера! Нават калі яна і будзе створана, то толькі ў далёкай будучыні. Да гэтага фюрэр у сто разоў выйграе вайну. Ці варта распыльваць сілы, траціць грошы,

# ТРЫБУНА чытачоў

■ Канстанцін Шуецкі з Арэшкава (24 гады), Гайнаўскі павет, працаваў шафёрам на Гайнаўскай станцыі ўнутранага транспарту. 19 мая выбраўся ён матацыклам з Арэшкава ў Гайнаўку. Не пануючы над матацыклам, упаў у роў і забіўся. Устаноўлена, што быў ён п'яны.

■ У вёсцы Мілковіцы Пашкі Сямяціцкага павета згарэў мураваны электрычны млын, уласнікам якога з'яўляюцца К. Руцінскі і Б. Крыстосяк. Разам з млыном згарэла 74 цэнтнеры збожжа. Затраты — 500 тысяч злотых.




■ Чэслаў Макарчык з вёскі Кур'янкі ў Дуброўскім павеце 16 мая г. г. прыехаў у Беласток. Ля крамы ПКО з замежнымі таварамі падыйшоў да яго незнаёмы і заявіў, што мае 1 000 кг высакаякаснай бляхі, якую можа прадаць за 20 тысяч злотых. Макарчык згадзіўся яе купіць. Пасля незнаёмы паказаў яму квітанцыю на 800 кг бляхі і патрабаваў грошай. Селянін даў яму 15 500 зл. Тады «прадавец» заявіў, што пойдзе за кіраўніком і разам паедуць забраць бляху са складу. Аднак наіўны селянін надарэмна чакаў на «прадаўца».

■ Гайнаўскі пракурор загадаў арыштаваць Яўгенія Ярошука (26 год), гаспадара з вёскі Асоўка. Падазраваюць яго ў тым, што 11 мая г. г. моцна пабіў Анастазію Аляксейчук і грозіў, што заб'е Чэслава Дуная.

■ Вучань III класа электрычнай прафесіянальнай школы ў Саколцы Ян Пастушэк (18 год), самастойна зрабіў сабе пісталет. У час гульні з гэтым пісталетам 18 мая г. г. падстрэліў у ногу 13-цігадовага Янку Тумеля. Наступнага дня добраахвотна з'явіўся ён у павятовую камендатуру МО. Тады аказалася, што дамарослы канструктар зброі прыхаваў сабе шмат патронаў да спартыўнай і паляўнічай зброі. (вр)




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву на вёсцы, маю 24 гады. Палова маіх сябровак выйшла ўжо замуж. Найсардачнейшая мая сяброўка выйшла замуж у мінулую зіму. Не хацела выходзіць, але бацькі прымусілі, каб не асталася ў старых дзеўках. Толькі адна з іх выйшла замуж з ахвотай, з кахання. Асталося нас дзве. Я таксама, калі б хацела выйсці замуж, маю за каго, але гэтыя хлопцы мне не падабаюцца.

Аднак бацькі ўсё нагаварваюць, каб выходзіла за каторага з іх, бо за год ці два ніхто ўжо мяне не захоча ўзяць замуж, бо ўжо буду лічыцца старой дзеўкай. Мо трохі і праўды ў тым, бо калі зайду на забаву, дык гуляюць ўжо малодшыя дзяўчаты, а і хлопцаў у маіх гадах ужо нямнога, большасць пажанілася. Не ведаю, Сэрцайка, што рабіць, ці выходзіць замуж, ці не. Баюся, што ніколі не буду кахаць Янку (за якога бацькі хочуць аддаць мяне), бо ён вельмі самаўпэўнены і мае дрэнны характар (брыдка, вельмі брыдка адносіцца да бацькоў). Парай, Сэрцайка, ці паслухаць бацькоў, ці чакаць, ці мо дзе-небудзь выехаць.

**НІНА**
з Дуброўшчыны

**Дарагая Ніна!** У многім бацькі маюць рацыю, аднак у гэтай справе, — не. Не можна ашукваць сябе ў тым, што калі выйдзеш замуж, тады пакахаеш свайго мужа. А калі не? А калі яшчэ больш яго зненавідзіш? Што тады? Вось над тэтым трэба падумаць. Бацькі старыя, яны глядзяць вачыма з перыяду сваёй маладосці. Не раю табе, Ніна, выходзіць замуж, пачакай, ты ж яшчэ маладая і няма чаго баяцца, што астанешся ў старых дзеўках. Лепш выйсці замуж позна, але добра, чымсьці рана і дрэнна.

Жадаю ўсяго найлепшага.

**Сэрцайка**

## ДОБРАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Апошняя канферэнцыя ў навучальным 1967/68 годзе настаўнікаў канферэнцыйнага раёна Заблудаў адбылася 11 мая 1968 года. Удзел у ёй узяло, як і заўсёды, амаль 40 настаўнікаў. Варта сказаць, што гэтая канферэнцыя была адной з найцікавейшых канферэнцый, якія адбываліся ў гэтым раёне. Праходзіла яна ў Дзіцячым доме ў Красным, каля Заблудава. Канферэнцыю ўзначальваў намеснік прэзаса павятовага аддзела Саюза настаўнікаў у Беластоку таварыш Аляксей Еська. Апрача канферэнцыйнае тэмы, над якой развівалася шырокая дыскусія, настаўнікі мелі магчымасць пазнаёміцца з умовамі жыцця дзяцей, якія прабываюць у гэтым доме. Аб жыцці іх паінфармаваў кіраўнік гэтага дома, сябра Чая. Нельга не ўспомніць, што сябра Чая з'яўляецца добрым педагогам і гаспадаром свайго аб'екта. Тут на пляцы пасаджаны кветкі, зроблены алеі, лаўкі для адпачынку, гойданкі, каруселі, ну і вельмі важнае — чысціня і парадак. Большасць гэтых работ зрабілі дзеці пад кіраўніцтвам сябра Чаі.

Усё гэта дапасавана да мясціны, якая з'яўляецца вельмі прыгожай, асабліва ў месяцы маі. Пасля канферэнцыі і супольнага абеда настаўнікі мелі магчымасць згуляць некалькі танцаў пад музыку грамафонных пласцінак.

МІКОЛА КРАЎЧУК
Патока

## МІТЫНГ У МІЛЕЙЧЫЦАХ

У сувязі з гадавінай Дня перамогі, па ініцыятыве ПА БГКТ і ГК ПАРП у Мілейчыцах 12 мая г. г. адбылася вялікая дэманстрацыя мясцовага насельніцтва. На могільніку савецкіх салдат адбываўся мітынг. Адкрыў яго інструктар ПА БГКТ Міхась Вішанка. З прамовай выступіў сакратар прапаганды ПК ПАРП тав. Казлоўскі. Потым на могільнік прыехала матацыклетная эстафета. Прыняло ў ёй удзел каля 500 матацыклістаў з усяго Сямяціцкага павета. Ехалі яны шляхам партызанскай дывізіі імя Каўпака. Удзельнікі мітынгу выслалі прывітанне кіраўніцтву ЦК ПАРП. У мітынгу ўдзельнічала каля 6 000 жыхараў. Падобныя мітынгі адбыліся і ў іншых мясцовасцях нашага павета.




Жыхары Мілейчыц і ваколіцы ідуць на могільнік савецкіх воінаў, каб ушанаваць памяць загінуўшых.

МІХАСЬ ВІШАНКА
Фота С. Крэйза

## СУСТРЭЧА З ЖУРНАЛІСТАМ

15 мая Дубічы Царкоўныя наведаў журналіст «Нівы» А. Карпюк. Увечары ў клубе «Рух» адбылася сустрэча прадстаўніка газеты з насельніцтвам. Рэдактар гаварыў пра розныя справы, якія адбываюцца на шырокім свеце, шырока расказаў аб ізраільскай агрэсіі супроць арабскіх краін. Прысутныя з вялікай цікавасцю слухалі А. Карпюка. У інфармацыі, якую мы пачулі, было многа новага, цікавага, дагэтуль мала каму з мясцовых людзей вядомага.

Пасля адбылася шырокая дыскусія, было многа пытанняў да рэдактара, на якія атрымалі мы дакладны і трапны адказ.

Сустрэча закончылася ўручэннем кветак А. Карпюку вучнямі дубіцкай школы.

М. ПАНФІЛЮК

## У ГОНАР З'ЕЗДА ПАРТЫІ

У сувязі з днём пажарніка і V з'ездам ПАРП 12 мая ў Дубічах Царкоўных адбыўся грамадскі чын: члены пажарніцкай аховы двума трактарамі амаль цэлы дзень вазілі жвір пад аб'ект сушарні пажарніцкіх вужоў, які будзе будавацца побач з рамізай у гэтым годзе.

Ініцыятарам чыну з'яўляецца мясцовы прэзідыум ГРН разам з камендантам пажарніцкай аховы Іванам Герасімюком.

М. ПАНФІЛЮК
Дубічы Царкоўныя

загружваць прамысловасць, якая павінна даваць толькі тое, што патрабуецца сёння, неадкладна!..»

Аўтарытэтныя дарадчыкі былі настойлівы, справы на фронце ішлі паспяхова. І ён падпісаў загад, які забараняў працу над праектамі, якіх нельга рэалізаваць на працягу аднаго года і атрымаць неадкладны эфект на вайне.

Успомніўшы аб гэтым, Гітлер сціскае кулакі. Дурні! Ён, Гітлер, давяраў ім, слухаўся. І вось вынікі: германскі праект стварэння атамнай зброі — у пачатковым стане, час страчаны, яго не вернеш. На Волзе знішчаны цвет вермахта! Божа, дзе ўзяць верных, здольных людзей?

— Добра, — мармыча Гітлер, — добра!.. Калі не вы, то я сам, усё сам!..

Палец фюрэра націснуў кнопку званка.

— Шмундт, — гаворыць ён увайшоўшаму ад'ютанту, — запрасіце пана фон Браўна!

Вернер фон Браўн уваходзіць. Гітлер сустракае яго пасярод пакоя, цісне руку, саджае ў крэсла.

Фон Браўн дакладвае. Абстрэл Англіі снарадамі ФАУ-1 можна будзе пачаць ужо восенню. Адносна бамбардзіроўкі амерыканскага кантынента ракетамі вялікага радыуса дзеяння, то, відаць, гэта адбудзецца пазней — патрабуецца шмат часу для падрыхтоўкі. Трэба адпаведна абсталяваць некалькі акіянскіх падводных лодак, якія будуць транспартаваць ракеты. Так, абстрэльваць можна будзе шматлікія пункты Амерыкі, штат Нью-Мексіка таксама. Уся справа ў майстэрстве камандзіраў падводных лодак.

Закончыўшы, Браўн выходзіць.

Некалькі мінут Гітлер усхвалявана ходзіць па кабінеце. Ён нешта мармыча, часам усміхаецца. Затым вяртаецца да стала і пачынае гаварыць. Ён упэўнены: летам становішча на ўсходнім фронце грунтоўна зменіцца. Гэта кампанія ў Расіі будзе апошняй. Разгром рускіх армій непазбежны. На захадзе таксама адбудзецца рашучы зварот у ходзе вайны. Мэта будзе асягнута лютымі бамбардзіроўшчыкамі Англіі. Затым такая ж акцыя супраць Амерыкі — знішчэнне лабараторый Лос Аламоса.

Гітлер зноў узбудзіў сябе.

— Усё, — гаворыць ён, — тады ўсё. Мэта майго жыцця будзе ажыццяўлена.

Ён працягвае. Сказанае — вынік яго роздумаў аб лёсах рэйха і ўсяго чалавецтва. Вернер фон Браўн быў выкліканы, каб усе ўпэўніліся: машына запушчана. Справа за вопытнымі людзьмі. Ці вядомы кандыдаты, якім можна даверыць гэту працу?

Гітлер змаўкае і пытальна глядзіць на сідзячых перад ім людзей.

— Так, мой фюрэр, — адказвае Канарыс, — у мяне ёсць такі чалавек. Але я хацеў бы пачаць здалёк. 1939 год, сакавік. Вы толькі што вярнуліся з пакоранай Прагі. І вось у райхе-канцылярыі я паказваю вам пачку фатаграфій: людзі верхам на тарпедах.

— Я не забыў, — адказвае Гітлер. — Але я памятаю і іншае...

Канарыс паспешліва працягвае:

— Так, вы не рэкамендавалі гэтай зброі для вермахта.

— Гэта была памылка, — раптам гаворыць Гітлер. — Вялікая памылка, адмірал. Мяне акружаюць не толькі разумныя людзі. Нямала і дурняў. Аддзякуйце іх.

Канарыс адгадаў зварот у поглядах Гітлера і трапна згуляў на гэтым. Цяпер — дзейнічаць рашуча.

— Мой фюрэр, — гаворыць ён, — калі гэта памылка, то яе можна выправіць. Яшчэ ў той час я разважыў, што забарона выкарыстання жывых тарпед не датычыць ваеннай разведкі. І я не страціў ні аднаго дня...

Канарыс дакладвае аб лабараторыі «1-W-1», аб эксперыментах у ёй, аб тайным логаве Абста паблізу базы працаўніка.

— Хто ж дабіўся гэтага? — пытае Гітлер.

— Адзін з афіцэраў маёй службы.

— Яго імя?

— Артур Абст.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Gra bez reguł" (czeski), 11—12. „Kto zdobędzie puchar" 13—14. „Jak się masz Vero" (węgierski), 15—16.

**Дубіны**

„Marysia i Napoleon" (polski), „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 15—16.

**Нараўка**

„Kryptonim Nektar" (polski), „Mętna woda" (węgierski), 12—16.

**Чыжы**

„Dr Fabryzus działa" (NRD), „Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**

„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 12—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Kaukazka branka" (radz.), 12—16.

**Райск**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Droga nad morze" (bułg.), „Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), 11—14.

**Міхалова**

„Urocza gospodyni" (USA), 11—12. „Krew na śniegu" (jugosł.), 13—14. „Mocne uderzenie" (angl.), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Tu radio Gliwice" (NRD), 11—12. „Małpia kuracja" (USA), 13—14. „Lecą żurawie" (radz.), 15—16.

**Шудзялава**

„Westerplatte" (polski), „Człowiek bez paszportu" (radz.), 12—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), „Poranki młodości" (rumuński), 12—16.

**Новы Двор**

„Mroźny poranek" (radz.), „Mętna woda" (węgierski) 15—16.

**Ліпск**

„Jowita" (polski), „Chewzburska ballada" (radz.), 15—16.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7066

Сход у адной праектнай арганізацыі. Разглядаюць асабістую справу Ануфрыя Лізюка. Маральнае разлажэнне, якое выявілася ў тым, што ён, Лізюк, пакахаў другую жанчыну і кінуў жонку з дзецьмі. Выступае адзін, другі, трэці... Усе асуджаюць, называюць учынак Лізюка недастойным, ганебным і гэтак далей. Асабліва ярасна накінулася на яго Яніна Барысевіч, жанчына гадоў трыццаці, у яркім адзенні, з моднай прычоскай, з ярка размаляванымі губамі, так і відаць, што яна маладзіцца, хоча выглядаць дзяўчынкай... Праўда, можа, ёй гэта і трэба, бо яна незамужняя.

— Учынак Лізюка кідае цень на ўсю нашу арганізацыю, — распіналася Яніна Барысевіч, — я таксама асуджаю яго... Гэта маральная разбэшчанасць... І мы павінны патрабаваць ад Лізюка, каб ён тут сумленна прызнаўся, сумленна раскаяўся...

Выступіла яшчэ адна жанчына — Марыя Барташэвіч. Яна сказала, што Лізюк не мог іначай зрабіць, калі ён па-сапраўднаму пакахаў другую, бо хіба можна прымушаць чалавека жыць з нялюбай?..

Але сход усё ж вынес Лізюку вымову.

Прайшло трохі часу пасля таго

# Хто болей вінаваты?

сходу, і Яніна неяк гаворыць Марыі:

— Выходжу замуж.

— За каго?

— За Караблёва.

Марыя здзівілася і нібы сумелася, не змагла нічога адказаць: яна ведала, што Караблёў — таленавіты мастак, багаты, але зусім стары чалавек, праўда, адзінокі, дзеці павырасталі, пажаніліся, жонка памерла.

Яніна, відаць, адчула, што Марыя не ўхваляе яе замужжа, але патлумачыла:

— Надакучыла адной і без грошай жыць...

Марыя раптам прыгадала сход і выступленне там Яніны... Хто ж болей вінаваты: мужчына, які пакінуў сям'ю, пакахаўшы другую, ці жанчына, якая без кахання забрала старога мастака?..

— Ну, што ж... — толькі і прамовіла Марыя.

А Яніна дастала люстэрка і пачала падфарбоўваць губы.

Аркадзь Марціновіч

# НІЎКА



— Дазвольце далажыць. Забіта дзевяць ворагаў: пяць партызанаў і чацвёра нашых неграў!

## НАСТЫРНЫ ЖАНІХ

Бацька дзяўчыны з раздражненнем гаворыць маладому чалавеку:

— Вы чулі, што я сказаў?!

— Добра, калі вы не хочаце аддаць мне руку дачкі, то дайце хоць дагледзець матч па тэлевізару.

## СЮРПРЫЗ

— Дазвольце вас пад руку ўзяць?

— Не трэба. Так мяне заўсёды муж водзіць — надакучыла.

— Тады дазвольце гаспадарчую сумку паднесці.

— Вось гэта для мяне сюрпрыз.

## СУР'ЁЗНАЯ ПАМЫЛКА

— Кажуць, ты жаніўся?

— Ну і што? Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць.

## НЕБЯСПЕЧНАЕ СУСЕДСТВА

Жыхар камунальнага дома звяртаецца да суседа, сустрэўшы яго ў калідоры:

— Хачу скардзіцца. Ваша радыёла кожны вечар так грыміць, быццам стаіць у маім пакоі.

— Паслухай, даражэнькі, на тваім месцы я лепш маўчаў бы. Калі аб гэтым даведаецца мая жонка, то прымусіць цябе плаціць грошы за карыстанне радыёлаю.

## КАПРЫЗЫ МОДЫ

Пяцігадовы хлопчык, гледзячы на развешаную памытую бялізну, пытаецца ў старэйшай сястры:

—Верка, гэта бацькава насавая хустачка?

— Ды не! Гэта ж маміна спадніца!

## ЗАКУСКУ НЕ ПАДРЫХТАВАЛА

Суседка пытаецца ў суседкі:

— Чаму ты так рана прыбралася?

— Муж жа сёння зарплату прынясе — у тэатр пойдзем.

— Ах, божа мой, я і забылася, што ў іх палучка. А я ж яшчэ і закуску не падрыхтавала.

## КОНТРУДАР

Амерыканскі банкір, будучы ў Парыжы, павёў свайго сына ў звярынец. Хлопец быў вельмі задаволены ўсім, што там убачыў. Бацька заўважыў гэта і звярнуўся да дырэктара звярынца:

— Колькі каштуе гэтая цацка? Я б з прыемнасцю купіў ваш звярынец для сына!

Дырэктар іранічна паглядзеў на зацікаўленага і сказаў:

— Мяне таксама цікавіць: колькі каштуе ваш сын? Я ахвотна набыў бы яго для майго звярынца.



## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Уладзіміра Рудзінскага з Мэнчэстэр (Англія) змяшчаем песню п. з.

# ОРЕНБУРГСКИЙ ПУХОВЫЙ ПЛАТОК

Слова В. Бокова Музыка Г. Пономаренко

В этот вьюжный неласковый вечер,
Когда снежная мгла вдоль дорог,
Ты накинь, дорогая, на плечи
Оренбургский пуховый платок.
Я его вечерами вязала
Для тебя, моя добрая мать.
Я готова тебе, дорогая,
Не платок, даже сердце отдать. (2 раза)

Ветер шарит, как странник, по ставням,
За окном завывает метель.
Для тебя самовар я поставлю,
Для тебя отогрею постель.
В этот час одинокий вечерний
Мне с тобой хорошо говорить.
Как мне хочется лаской дочерней
Все морщины твои удалить! (2 раза)

Чтобы ты в эту ночь не скорбела,
Прогоню от окошка пургу.
Сколько б я тебя, мать, ни жалела,
Все равно пред тобою в долгу.
Пусть буран все сильней свирепеет,
Мы не пустим его на порог,
И тебя, моя мама, согреет
Оренбургский пуховый платок. (2 раза)

# Курёзы

## ПРЫБЫТКІ АД МАРАК

Горнае каралеўства Бутан атрымлівае вялікія даходы ў замежнай валюце ад продажу паштовых марак. У апошні час тут штогод прадаюць марак на суму 50 тысяч долараў.

Для параўнання можна адзначыць, што такая вялікая краіна, як Індыя, зарабляе на продажы марак філатэлістам усяго пяць тысяч долараў.

## ГАНДЛЯРЫ СМЕРЦЮ

Больш 10 мільярдаў долараў — такую суму выручыў Пентагон ад продажу рознага ўзбраення замежным дзяржавам за шэсць год. Як паведамляе «Нью-Йорк таймс», у бліжэйшы час ЗША прададуць зброі на 4,5—4,6 мільярда долараў. Адна толькі Заходняя Германія, як разлічваюць, набудзе 200 рэактыўных самалётаў тыпу «Фантом» на 700—800 мільёнаў долараў.

## ЗАХАПЛЕННЕ КАРАЛЯ

Аргенцінец Дыега дэ Энрыкес валодае калекцыяй старажытнай або састарэлай зброі. У яго ёсць чатыры падводныя лодкі, тры браняпаязды, дзве сотні гармат, дзесяць тысяч мечаў, кінжалаў і ружжаў, мноства іншай ваеннай амуніцыі, а таксама васемнаццаць тысяч ваенных кніг і восем тысяч батальных фотаздымкаў.

Што ж, у кожнага караля свая фантазія, а дон Дыега да таго ж не проста кароль, а кароль бараніны.

## АВАНСАМ

«Усе ўзнятыя пытанні і ўсе тыя заўвагі і ўказанні, якія будуць дадзены ў далейшым, для нас пасільныя і іх трэба выканаць з гонарам».

(Са справаздачнага даклада).



Усе мы на адным караблі. Шкада толькі, што кожны хоча быць капітанам.